# *ІЗМАРАГД*

***

Добра быць, хоць бы й ноч,
маладым:
салаўі за ракой заліваюцца...
Як шкада,
што той сонечны дым
зноў з вясною
да нас не вяртаецца.

Як шкада,
што жыццё па гадах –
як раса па траве –
разбягаецца...

Ты пайшла ў халады,
і н і х т о
на мой голас
не адзываецца...

***

Крыжуюць нябёсы каметы –
у прышласць з нябыту лятуць,
прарочаць няшчасці сусвету,

а я толькі думаю: дзе ты,
кім рукі твае абагрэты
і як мне цябе пачуць.

Ці зоры пагаснуць, ці сонца –
што думаць пра тое цяпер?
Надзея – жывая бясконца.

Надзея – паранены звер –
залізвае горкія раны,
што ёй прычыніў недавер.

Крыжуюць нябёсы каметы –
прарочаць няшчасці сусвету,
а я толькі думаю, дзе ты
і як мне цябе пачуць.

***

Было так весела мне ўчора,
а сёння – горка...
Світанак выкаціўся з мора,
а ноч вавёркай
шмыгнула ў лес і хвост схавала
паміж гушчараў.
Вясна вянкі свае звязала.
З нізін-выжараў
выходзіць лета грацыёзна,
плыве па росах,
сцякае сонечна і слёзна
па соснах босых.
А я іду з табою поруч
да павароту –
за ім знікае боль і горыч
жыццевароту.
Датуль дайду і перастану
з табой спрачацца.
Давай без крыўды і падману
далей спяшацца.
Было нам весела і ўчора,
і заўтра – будзе!
А сваркі... што ж, такое гора!
Усе мы людзі.

## *Душа і вусны*

### *I*

Душа любуецца табой,
  і вусны шэпчуць аб каханні:
  зачараваны мілатой,
прадбачу сэнс у існаванні.

І кожны міг шчаслівых дзён
  дзівоснай кветкаю здаецца,
  якая сціснута ў бутон,
але крані – і развінецца.

### *II*

Шапнулі вусны: “Не шукай…”,
  душа трымценная памкнула
  за дзівасвету небакрай –
і спачування не адчула.

Яна дасюль, каторы год,
  уся ў надзеі: шчасце верне,
  ды зорак сонны карагод
пераплятае шлях ёй цернем.

### *Музыка*

Крані раяль пяшчотнаю рукой –
хай музыка за намі ўслед блукае,
хай сэрца верне страчаны спакой –
тваю душу па нотах адшукае.

Салодкі ўздых ускалыхне ад сноў,
ты зразумееш – не бывае позна.
Душа з душой спалучана наноў
і прышлы дзень не шчэрыцца пагрозна.

Праз дзень і ноч ішлі мы па адным:
гублялі шмат жыцця самотным шляхам.
Змывае музыка паволі з твару грым,
і разлятаецца самоты апранаха.

## *Імгненне*

Застанься шчэ на паўгадзіны,
дазволь з табою гэты час пражыць.
Хай прышласць патрывожаць успаміны,
хай насалодай сэрца набяжыць.

Такой хвіліны бляск і вызалоту
не бачыць той, хто выракся павек
каханнем жыць, чакаць яго ўмалоту...
Няшчасны той, згібелы чалавек...

Шукайма разам сэнс і асалоду
пры шэпце вуснаў: вось яны, краі...
Што паўгадзіны для бязодні году? –
Прывіднае імгненне на краі.

## *Спагада*

Вялікі боль кранае толькі раз –
на ўсё жыццё. А час бездапаможны,
і не схаваць за бесклапотнасць фраз
адчайных думак і настрой трывожны.

Прыхільнасць адцяняе прыгажосць:
красе тваёй і ў гэтым ёсць патрэба.
Мая душа ў тваёй – часовы госць,
што спачывае па шляху да неба.

Ды аднаму не выпадае шлях –
на вышыні не існуе бязбожнік...
Табе ж не знаны першародны жах,
маёй душы-планеты спадарожнік.

## *Дваістасць*

### I

З табою не магу я не застацца разам,
насуперак бядзе, паклёпам і абразам.
Заспаны маладзік памножыўся па вокнах:
магчыма, Месяц знік, і то – ліхтар прамоклы.
Па шыбах ад яго – няпэўная дваістасць.
І толькі я і ты – мы, без сумнення, існасць...

### II

Душа спытала пра душу
тваю таемную да Бога.
Я гэты ліст цяпер пішу,
у прадчуванне незямнога

слязою лашчыць залатой
руку мне воск, цяплеюць вочы
ад гэтай шчырасці. Ці той,
што сэрца выказаць не хоча?..

## *Пералюбы*

**I**

Проста за ўсё прабач,
не папракай дарма
ды не шукай у душы
тое, чаго там няма.
Што ж я зрабіў табе,
каб адчуваць недавер?
Рэўнасць сляпая, яна –
ціхі, драпежны звер.
Кінь у падушку твар –
сон залаты прысні...
Колькі ў вачах тваіх
сёння было хлусні...

**II**

Ти була, як свята,
по тобі – самота...
Очі, повнії мрій
та незмірних надій,
так далеко звідсіль
в смарагдовій росі
тих найкращих хвилин,
де був я не один,
де – не снив, не гадав –
я навіки пропав,
де себе залишив –
і любив, і грешив...

## *Любасць*

### *I*

Рукі стрэліся нашы, а душы
засталіся глухімі.
                    З ярма
адчуваю што вырвацца мушу,
ды спрацівіцца моцы няма.
Вуснаў слодыч – і лекі й атрута –
да жыцця ажывяць, каб затым
невычэрпнай, шалёнай пакутай
распусціць гэту любасць у дым.

### *II*

Звяла самотная кветка
          між сакавітых траў.
Так, гэта я – той першы,
          хто цябе надламаў.
Ведай, самотная кветка:
          згаснуць тваёй красе;
Не, не ў маім букеце –
          раніцай у расе.
Згіне краса навечна
          між сакавітых траў...
Памятай: я – апошні,
          хто цябе цалаваў.

***

*Л.Г.*

Я люблю твае вочы. Засні.
Хай прысніцца табе мяккі ранак:
па-на ўзмежку зялёнай раллі
заліваецца песняй жаўранак;

у далёкі, нязведаны свет
па блакіце плывуць навальніцы –
пакідаюць празрысты свой след
у калысцы праросла́й пшаніцы;

промні сонца разгойдалі цень…
Спі. Наперадзе столькі заранак
ты сустрэнеш яшчэ! Без мяне.
Хай прысніцца табе мяккі ранак…

***

Завітай уначы,
калі зоры з нябёсаў
асвятляцьмуць твой шлях
да парогу майго.
Ты прыйдзі, не маўчы,
гордай, стомленай, босай,
з кветкай руты ў руках
да парогу майго.

Завітай – супакой
цёплым дотыкам вуснаў…
Чуеш, вецер аціх:
не бушуе – пяе…
А за спінай няхай
Кажуць: “Вось ён, распуснік!”
Што мне, зрэшты, да іх?
І што ім да мяне?

## *Млечны шлях*

Млечны шлях
бачу ў тваіх вачах.
Не заснуць,
калі я з табой,
і жах
сноў адплывае прэч.
Толькі ты не пярэч,
што дзесьці ля зорак тых
цемень чужых начэй
хавае ад нашых вачэй
каханне дваіх...

Мы з табой
думак сплятаем рой.
Засынай,
і мы паляцім да той
зоркі, што вечны свет
мае адна з планет,
дзе незаўважны час
распусціць свой парасон...
Будзе, як дзіўны сон,
каханне для нас.

## *Купалле*

Мне пекната твая
наваражыла шчасце,
і боскаю была
пяшчота шчырых рук.
І з вуснаў я прымаў
жаданае прычасце,
і ад пяшчоты той
Зямля спыняла рух.
А зоры ў цішыні
маладзіка люлялі
і, сарамлівы, ён
не ззяў дзеля красы...
І мы праз ноч адны
ў каханні панавалі,
і нам зіхцеў агонь
бурштынавай расы...

## *І вернасць, і здрада*

### *І*

Мне здалося:
жыццё – камета,
бо ў палёце гарыць ярчэй.
Аглядзеўшы, бадай, паўнеба,
заблукала яна ў сусвеце
русых косаў і сініх вачэй.

### *ІІ*

Мы прыгожыя.
Нас напаткала каханне.
Толькі рукі твае
не маю абнялі галаву,
не з маім у гармоніі
соннай твой рух.
Я – пабочны на балі
чароўных уздыхаў,
незаўважны і лёгкі,
як пух...

# DZĪNTARS

## *Пагляд*

Пагляд, самотны твой пагляд...
А праўда ў ім.
Што ж, не ідзе жыццё на лад,
а мы – мыўчым.
А мы маўчым, бо плыні фраз
не перадаць
пачуццяў тых, што ў кожным з нас
баляць.
І хлусім зноў, што нам не ў знак,
усё адно,
дзе будзе жыцце, з кім, і як,
і што яно.
Усё шукаем, як святло,
зачын прычын,
хаця не родныя даўно.
Таму маўчым.

***

Я не прашу аб дараванні.
Жыццё – не грэх:
спакуса, горыч, спадзяванні,
у вочы – смех.
Кахаем тых, хто не жадае
такіх, як ёсць
на самай справе мы. І маем –
самоту, злосць.
У мроях, дзіўных летуценнях
не бачым мы,
як топчам любыя нам цені
паміж травы.
Напоіць сэрца болем лета,
тугой – мурог…
Хацеў сказаць табе пра гэта,
але не змог.

***

Калі збярэ ў сувой
Бог зоры над табой,
а неба хмарамі закрые далягляды,
ты ведай: там, вышэй,
як сум тваіх вачэй,
нямым дакорам свецяцца Плеяды.

І ты адна. Адна
чакаеш давідна.
Ды сэрцам я не тут, я не з табою разам.
Не прабачай, прашу,
бо я ў душы нашу
каханне да цябе і ад цябе паразу.

## *Назаўсёды*

Далоням – мяккае цяпло,
а сэрцу – сонны боль.
Вось так пакінула жытло
яна. Цераз плячо –
сяброўства нашага юдоль.
Бывай жа, юнае дзяўчо,
бывай, кахання соль!

Не, хто кахаў – не праклyне
салодкі, цудны май.
Тужлівы позірк твой лаўлю,
а ты – спяшай, спяшай:

З уздыхам кожным ад мяне
далей…
І з кожным крокам да зямлі
бліжэй.

***

Вецер з лісцем панёс
твой узрушаны ўздых –
падхапіў, прыглушыў
і развеяў над плёсам.
І ні болю ў душы,
і ні крыку ў душы.
Нават слёзы – ад ветру,
напэўна, былі…

Шапаценне лістоты
прыглушыць мой крок,
шум дажджу
словы з памяці змые.
Ты чакай:
можа стацца, знарок
зноў збягуцца
сцяжыны старыя.

***

Вачэй блакітная смуга –
душы ўтрапенне,
у ім знайшла твая туга
увасабленне.

Найсветлы цяжар юных сноў –
нібыта ўзвівы
трагічнай скрыпкі галасоў
і пералівы.

Дарога ясная відна
да існай ролі,
табой абраная яна
з уласнай волі.

Яшчэ ты зведаеш свае
узлёты й спады –
жыццё з чужым жыццём звядзе
тваё да ладу.

Насустрач шчасцю руш смялей,
не аглядайся
на цені дзён, і надалей
сабой застанься.

Каханне першае міне –
не гэта цяжар,
але і ён у сівізне
трывала ляжа.

## ***Dzīntars***[1]

Залацісты бурштынавы дождж
з ізмарагдавых хваль наплывае,
абдымае маністамі дзюны –
мора ў прыступе буры кідае
вечны скарб сваіх нетраў
на пясчаныя руны.

Цьмяных зорак начное святло
ападае з далёкіх сусветаў,
разбіваецца ў хвалях і гіне.
Ды праз тысячы зімаў і летаў
з пракавецця глыбіняў
выплывае бурштынам.

Гэты чысты балтыйскі бурштын
хай сагрэе цябе ў цяжкай хвілі,
шчасціць лёс твой няхай ён дзявочы –
дзесьці там, праз мільярдныя мілі,
аглядалі калісьці яго
закаханыя вочы.

[1] Бурштын (латышск.).

## *Цяпло*

Мінула ўсё: ты прыйдзеш да мяне
апошні раз, і так, па-чалавечы, –
без крыўдаў і пагроз, і гучных фраз –
сябе ў душы маёй увекавечыш.

Адчуў і я: за ўсё быў даражэй
апошні пацалунак, а расстанне
праз рэўнасць ад звычайнага цяжэй,
як шмат цяжэй ад помсты дараванне.

Я ведаю: не прынясеш сюды
свой боль – мяне майго пазбавіш,
і нават праз мароз і халады
цяпло сваё з паштоўкай пераправіш.

## *Сум*

### *I*

Ты сумуеш і плачаш.
Навошта раскройваеш сэрца?
Сёння сонца ўзыходзіць іначай
і здаецца –
свет люднейшы, мілейшы.

Сёння птушкі спяваюць
нашмат весялей, як учора…
Першы раз у жыцці
адступілася гора.

### *II*

Я сумую заўжды па табе,
нават сэрцам калі не гукаю.
Можа, боль праміне…
Пачакаю.

Жыццядайны, як сонца прамень,
гэты дзень у сусвеце загінуў:
на зямлі толькі цень
твой пакінуў.

На цябе спадзяюся дарма –
ні зямля твой прытулак, ні неба.
Пэўна, шчасця няма…
А ці трэба?

## *Снег*

Першы снег.
Ён не ведаў, што мы расстаемся –
як дзіця,
міла песціў твой твар.
Звонкі смех
дзесьці рэхам рассеўся
на краях
беласнежаньскіх хмар.

А мароз
пёк бязлітасна рукі,
І збялеў
знерухомелы сад.
Я прынёс
табе шчырыя гукі –
Горкі спеў
развітальных санат.

## *Усё мінаецца...*

Усё мінаецца. І ты –
не першая між дзікіх ружаў,
якім ашпарваюць шыпы
шаленствы сцюжаў.

Ты перабольшыла: здаля
і горы падаюцца кропкай.
Жыццё ацэніць нас – пасля
і паасобку.

Я адыходжу. Не дрыжы,
не зводзь на слёзы маладосці –
не памнажай сваёй ілжы
шаленствам злосці.

Жыццё працягвае свой бег,
заўзята выбівае скерца...
Каханне – не смяротны грэх:
ачысці сэрца

і пойдзеш, чыстая. Спрасон
на небе сонейка ўсміхнецца.
І не ўзгадаеш гэты сон –
усё мінецца.

## *Дацэ*

*Дацэ Этвіні*

Ах, якая харошая Дацэ!
Прыгажуні павабны пагляд
зводзіць з тропу юнацкае сэрца…
– Арганіст малады,
ты не брыў барады!..
І – смяецца.
Сакаўная дзяўчына! А водар
спелых вуснаў так хоча адчуць
арганіст малады і прыгожы…
Ён не есць і не п’е.
Ці ж маўчаннем яе
пераможа?
Хлопцу з жалю свет стаўся нялюбы,
не ўзвіваецца нотай арган.
Думка чорнай назолаю б’ецца:
“Не праспі цэлы свет,
бо другому той квет
дастанецца!”
Ды не важыцца хлопец. Рашуча
думку тую адпуджвае прэч:
“Што ж я, розуму хіба не маю?!
Дзе ёй дзецца? куды?
Я ж яшчэ малады!
Пачакаю…”
Доўга Дацэ ў надзеі чакала,
выглядала і ўдзень і ўначы…
Старасць неяк няўзнак прыплялася,
але з ёй, як з нудой
непазбыўнай сваёй,
прыжылася.

Ах, якая самотная Дацэ!
Ах, маркотны які арганіст!
І нялюбы ім свет, і нямілы…
І да неба багам
разлівае арган
пералівы…

***

Стаў бы табе я песняй,
Бураю, што крылом
Цёплаю раніцай весняй
Б’ецца ў тваё акно.

Бровы твае – ізмарагды,
Вусны – рубінавы рай,
Вочы – глыбокая просінь,
Чыстая, як небакрай.

Як заірдзіцца восень,
Толькі не спагадай, –
Гэту бясконцую просінь
Выпіць дарэшты дай.

Сцюжнай зімоваю ноччу
Сон твой расквечу ў май,
Буду табе кім хочаш,
Толькі мяне кахай!

# *VINCLUM*

***

Вецер па даху б’е,
вечар шкрабе ў акенца,
нібы пытае: “Табе
сум раз’ядае сэрца?
То не бяды – чакай:
будзе і сэрцу май,
толькі душа прачнецца…”

Хвалям бурлівых рэк
з мора не павяртацца –
сэрцу цябе павек,
пэўна, не дачакацца.

Дождж без супыну лье,
хмары здушылі неба…
Ты не згадаеш мяне:
Сыты не просіць хлеба.

### *Вінаватасць*

Вось вінаваты я стаю ізноў…
Сумленне працінаеш мне вачыма.
Я не хачу казаць ілжывых слоў,
але ж і праўды мовіць немагчыма.

Няпраўда-праўда… Як кароткі сон
паміж хлуснёй і новаю маною.
А праўда – не складанчык-парасон,
які шляхетна носіш ты з сабою.

Адно скажу: напэўна, што дарма
мяне на попел зводзіш ты вачыма –
не хочу ні кахання як ярма,
ні пад’ярэмнай любасці жанчынаў.

## *Самота*

Як самотна мне без пагляду
і ўсмешкі ласкавай тваёй…
Цыгарэты гаркавы ладан
памінальна плыве.
Прадчуваць і не верыць у здраду
так нясцерпна-балюча мне.

Так хацець і не мець пяшчоты,
толькі ў снах абдымаць твой цень!
І прасіць, каб такой пакуты
не спаслаў болей Бог;
а наяве пачуць: "Любы, што ты?!
Як ты думаць пра тое мог?!"

Што ж, я веру хлусні гэтай, веру,
бо, здаецца, сабе нахлушу,
што спакойна засну, толькі дзверы
прычыню і агонь затушу.

***

Зноў пабачыў цябе. Ты змянілася:
больш разважна гаворыш, усмех
напускны. У жыцці абабілася
ды спатоліла прагнасць уцех.

А тады, калі радасна клалася
на мядовы цяжкі мурог,
ты кахала мяне і не кралася
на чужы непрыветны парог.

Ты прыйшла, як заўжды, басаножая,
па расе разышоўся след…
Ды не прыйдзеш цяпер, мая гожая,
той, якая змяняла свет…

Надламалася штосьці: не хочацца
больш на сонца, на зоры глядзець.
Да цябе зноў варочацца –
як у бездань з разгону ўляцець.

## *Рахунак*

Часы мінуліся, як мы
былі шчаслівымі да болю:
  і сам я болей не святы,
  і ты стамлёна граеш ролю

  майго кахання, ды мяне
дарма прыцягваеш пяшчотай –
я многіх кветак не дарваў,
  шыпамі ўзброеных, як цнотай.

  Я не жадаю быць з табой,
  глядзець з адчаем, вінавата,
падобны, пэўна, на вар’ята,
адно з жывучаю душой.

***

– Як мне пакутна!
Пахавай
маё каханне,
І вось тады – бывай, бывай…
Шукай спаткання.

– І мне балюча, што мяне
Ты асуджаеш на выгнанне.
Навошта? –
Толькі да цябе
Маё адбудзецца вяртанне.
Кахання нашага ніхто
Не абмяжуе часам:
У год, у дзесяць
Ці – у сто…
Давай лепш
Будзем разам!

## *Нялюбай*

Мне твой праклён – узнагарода,
раўнівасць – светлая надзея.
Праклён, раўнівасць – гэта мода,
а для цябе яна – падзея.

Не праклінаюць раўнадушна,
як не маўчаць без спадзявання.
Табе здаецца – робіш слушна,
сама – згараеш ад кахання.

Клянеш, каб іншая жанчына
сваіх вішнёвых вуснаў спеласць
не аддала мне. Вось прычына!
Тваіх праклёнаў ашалеласць

звядзе далёка: ёю страсна
свой лёс няшчасцем ты пазначыш,
бо не мяне – праклён уласны –
у блізкай прышласці пабачыш.

### *Любай*

Бывай, пяшчотная мая.
Мінаюць шчырыя імгненні.
Мы развітаемся без слоў –
Прыгожых, і не вельмі.

Маўчы, маўчы, маўчы, маўчы! –
І без таго няўцерп балюча:
На гэтай стрэліся мяжы
Сум і расстанне немінуча.

То хай жа гэты час міне –
Няўдачы ў ім занадта многа.
Бывай жа! Пэўна, не мяне
Душой вымольвала ты ў Бога…

## *Vinclum*[2]

### *I*

Выбачэння папросіш, ды толькі
на каханне не маеш крэдыту.
Ці душой пакаянне адчула?
Сум вярэдзіць сардэчныя болькі,
нібы вецер падраную світу…
Гэтак позіркам разанула,
быццам вырвала сэрца бандыту.

### *II*

Д’ябал з анёлам стаялі пры мне.
Іх я не слухаў: мой цень па сцяне
Прэч адбягаў ад пажадных вачэй…
Юр разгараўся ярчэй і ярчэй,
Шэптам змяняліся крохкія стогны,
Слодыч і боль праліліся на сцёгны…
Свет нараджаўся – і гінуў адразу:
Бог абмываў з рук прачыстых абразу.

[2] Путы; ланцугі (лац.).

***

Сёння
  паліў
    лісты,
якіх
  калісьці
    чакаў
праз цэлыя тры гады.
І вось гэты стос таўсты
абвугліў агонь
      і змяў.
А сэрца шапнула: «Ты
мяне абакраў…»

## *Зіма*

### *I*

Я пачуў з тваіх вуснаў:
хоць зараз зіма,
ды на сэрцы лёд хруснуў
ад сугрэву віна,
прамінулася злосць.
Можа, мне падалося:
ноч, і ты на пероне...
Плач жа, плач – не збылося:
не ў гэтым вагоне
ад’язджала твая маладосьць...

### *II*

Вясны чакаю, а зіме
кажу: “Бывай!
На развітанне
мне холад розуму пакінь,
і жар у сэрцы,
і каханне”.

***

Вочы-смарагды згарэлі,
тайнаў развеяўся дым...
Як мы чакалі, хацелі,
як я жадаў маладым
вечна з табою застацца:
бачыць, паверыць, адчуць...
Шчасцем нязведаным здасца
легчы і лёгка заснуць:
Там, у скрываўленых хмарах,
неба маланкі ірвуць...
Хочацца верыць, што зараз
прывід мой не абмінуць!

## *Развітанне*

Мне цяжка з табой развітацца,
застацца нялёгка таксама.
Жыццё – раўнавагі мастацтва,
без выбрыкаў Мапасана.

Не будзе такім пацалунак
удзень, як шапотнаю ноччу;
і кожны благі паратунак,
калі пад наглядам крочу.

Зыходжу, і толькі ў марах
змагу ад цябе сагрэцца.
Давай развітаемся зараз,
каб зноў першы раз сустрэцца.

***

Нарэшце адзін… Дазмагаўся.
Былое знікае, як сон,
што моцна табе ўпадабаўся:
расплюшчваеш вочы, а ён
разбіўся па шкельцах вакон.

Як дождж, так і сон адмыслова
змывае і плямы, і пыл:
была б толькі шчырасць асновай –
і дужасці хопіць, і сіл,
і высілкаў змучаных жыл.

Ды што сумаваць – я ж не плачу,
а п’ю па заслужанай кварце
за ўдачу, а мо’ і няўдачу…
Нясуць ручаі па асфальце
былое ў патрушчанай смальце.

# *ПАЭТ І ДУША*

### ***Беларускія паэты***

*Памяці ахвяр 29.X.1937 г.*

Як цяжка паміраць, калі змагацца трэба,
калі ўваччу яшчэ гараць блакіты неба,
а ў сэрцы зніч-агонь любові братняй б’ецца,
і ў кожны міг душа ад болю разарвецца!

Як цяжка паміраць не ля свайго парога,
калі лятуць туды і птушкі, і дарога;
калі гасціць туды ласкава клічуць зоркі,
як цяжка не дайсці на родныя пагоркі!

Як цяжка паміраць паміж нялюбых твараў,
калі няма каму даверыць светлых мараў,
калі душа ў крыві канае бракам сілы,
мальбуючы “Жыві!” над прорваю магілы!

## *Душа мая*

І да стварэння Свету
ты жыла, душа мая:
з нетраў Космасу на планету
ты прыйшла. І была зіма.

І было табе холадна,
і няўцерп было голадна.
У бяздонні
ты ляжала крупінкаю –
залатою пясчынкаю –
на ўлонні.

У раптоўнай свядомасці
выйшла ты з нерухомасці
і чакання.
І вы стрэліся, родныя, –
ты і сэрца гаротнае –
летнім раннем.

## ***Паэт і Смерць***

*Паэт:* Гэта я сёння кветкі стаптаў
у самотным асеннім садзе,
гэта мой вандраваў сілуэт
у засмужаным даляглядзе,
між знясіленых ветрам траў…

*Смерць:* Надрываўся ўначы паэт,
сэрца кроячы чорнаю скрухай.
І не бачыў яго аніхто –
толькі Месяц пяшчотны слухаў
ды спагадна маўчаў Сусвет.

*Паэт:* Я ў мінулае сцежку таптаў
між вяргіняў і высахлых траў
у забытым каханнем садзе
і пабачыў твой сілуэт
у засмужаным даляглядзе.

*Смерць:* Сотняй зорак заплакаў Сусвет,
калі стрэліся я і паэт,
счараваны атрутнаю скрухай.
І, на шчасце, тады аніхто
нашай радасці-плачу не слухаў.

## *Эпістала да аўтаўвасабленняў*

Балюча, сорамна: спярша
Было цяпло дабра між намі.
Чаму ж цяпер мая душа
Ліецца на халодны камень
Бяздумных, жорсткіх вашых фраз?
Я не паводжуся ўзаемна,
Бо не люблю пустых параз,
Як і ахвяраў надарэмна.
Я ўдзячны вам за той давер,
Які не кожны зведаць можа;
За тое, што мяне цяпер
Б'яце па нэрвах асцярожна.
Усцешна: у жыцці маім
Былі вымройныя імгненні,
Калі змываўся злосці грым,
Бруіла пеннае натхненне,
Ад вас павейвала цяплом,
Зіхцелі вочы жывастрасна...
Ды праўда выявілася злом,
Хлусня зрабілася прыўкраснай.
Я не прынізіўся ніяк,
І вы не сходзілі слязамі,
Мне ж так хацелася, аднак,
У гэты момант зліцца з вамі,
Каб душаў нам не бэсціў хам,
Каб не цьмянелі вашы вочы:
Так ведаць прагнуў я, *што там* –
Празрыстасць дня, цямрэча ночы?..
Я не гаротнейшы з людзей –
І мне прымроілася шчасце,
Пакуль пад цяжарам надзей
Не давялося ў бруд упасці.
Жыццё паснедала бядой –
Я з ім не мог не падзяліцца.
Грахі, як пчолы, б'юцца ў рой,
У небе спее бліскавіца...
Таму, калі ў які мамэнт
Абразіў вас, параю прама –
Парвіце гэты ліст ушчэнт,
І памяць пра мяне – таксама.

## *Песняру*

Бываюць песні лебядзіныя,
кароткія, як развітальны ўздых,
і хвілі радасці адзіныя,
калі ты ўласны дух спасціг.

Няўлоўна, зманліва і прывідна
лёс завяршае піруэт:
няпраўду-праўду *пі* да дна,
калі сапраўдны ты паэт!

Не жалься Богу, што зняверaны,
не патрабуй сабе цішы.
А не – жыві свой век адмераны
і вершаў болей не пішы.

## *«Суаўтарцы»*

Вы мне пісалі, што кахаеце,
што Вам з’іначваецца свет,
калі мае радкі чытаеце,
што мой самотны сілуэт
наяве і праз сон Вам трызніцца,
і сіл не маеце ніяк
мяне забыць, што трэба зблізіцца
нам з Вамі – там пабачым, як.

Арган мелодый пералівамі
таксама душ кранае шмат.
Каханне – як музычны лад,
а мы не будзем так шчаслівымі.
Спадзеў – падман, што Вы ўтрымаеце
мяне прыгожымі брывамі.
Вы ў вершах не мяне кахаеце,
а вобраз, вылеплены *намі*...

***

Мінаюць дні юнацкія мае,
плывуць у ноч за светлаю журбою.
Мне так цяпер кахання не стае
з табою.
Дзеля чаго прыцішваеш імпэт
і непаўторнай поўнішся красою?
Не высушыць красы тваёй паэт
расою.

*“Ці ўсё яшчэ пакутую й кахаю,*
*Па гэтых ружах, любая, зважай.*
*Красы вачам чужым не пакідай.*
*На тым жа месцы, як раней, чакаю...”*

Каханая! Не выбавіць адчай:
праз тыдзень кветка не бывае пекнай.
А самалюбства – не дарога ў рай,
а пекла.

## *Смальты*

***Белая***

Па вышчэрбістым
дворышчы замчышча
хлешча шлеямі
дождж.
У ваду
кветкі падаюць,
і не думаюць
пра сваю пекнату.

***Чырвоная***

Сэрца б’ецца...
Пачуцці марцовыя
працінаюць
юрліва душу.
І такога хачу,
што не верыцца.
Ашалеў,
бо пра гэта пішу.

***Чорная***

Рукі здраднік
трывожна дрыжачыя
працягнуў развітацца:
паспець
хоча ў сэрцы застацца
таварышам;
і не бачыць:
працягвае – смерць.

***Жоўтая***
Нізкі, выспелы колас
пшаніцы
прытуліўся, стамлёны,
да плоту:
як стары,
што пасля бальніцы
і жыццёвага
пераплёту.

***Зялёная***
Я
стаю пры акне,
а зіму
сонца промнямі
лашчаць нябёсы.
Ашалелы ад водараў,
шпак,
апрануўшы заношаны
фрак,
па двары ходзіць,
радасны й босы.

***Сіняя***
Спаглядаеш, чужая нібы...
У вачах –
спадзеў і зняверанасць...
Цалую цябе –
пішу
на сэрца сваё
даверанасць.

***Ружовая***
Цябе мілаваць,
і кахаць, і кунежыць
для кожнага – шчасце,
быць можа…
магчыма…
Мне – толькі любіць
неўзаемна належыць,
і прагнуць прычасця
з рук херувіма
нягожа мне,
немагчыма.

***Блакітная***
*Schlafe, Prinzess*. Лятак
бэрлінскі ўзлятае:
развяжа,
магчыма, навек нашы лёсы.
Адказчык твой
*guten Tag*
выцісне чужагалосы,
а мой *дабранач* адкажа
і спаць, патрывожаны,
ляжа.

***Залацістая***
Глядзіш з абраз*а*
на абр*а*зы,
што душ чалавечых іржа
выплёўвае ў твар.
З глыбокіх парэзаў
пар*а*зы
сцякае крывёю сляза,
як жар.

# ***ЗДУМЕННЕ***

### ***Цішыня***

Давай паслухаем цішыню
і гіпнатычныя зоркі.
Уся прырода ўяўляе ню –
без радыяцый і хлоркі.
Нарадзілася з цішы неба –
галактыкі ўсе, планеты
(Якая была патрэба
ў стварэнні Сусвету?).
Самі паўстаць не маглі.
Чыя ж то была рука:
ці на якой мазалі,
ці – пах малака?

## *Круг*

Калі мы прыходзім у свет,
зямля адгукаецца спевам:
з намі
яна размаўляе
птушынымі галасамі
з кожнага дрэва.

Калі ж мы зыходзім адсюль
туды, за касмічныя межы,
з намі
яна размаўляе
пяшчотна неяк званамі
з кожнае вежы.

І гэтым птушыным спевам,
і гэтым расплачам-званамі
яна размаўляе
з намі
голасам мамы.

### *Знервеванасць*

Чорным муарам аббітыя сцены…
Кропля крыві на чырвонай парцьеры…
Скрыпкі трагічнай гатычныя ўзвівы…
Сонца прамень, як жыццё, мітуслівы…
Вочы партрэтаў шукаюць апоры…
Вецер суворы бушуе на моры…
Замураванае сэрца ў сцяне…
Ведаю: гэтакі лёс не міне
мяне.

Д'яблы рагочуць, валтузяцца чэрці…
Маска між імі Чырвонае Смерці…
Сэрца грызуць, разрываюць на часткі…
Толькі б стаяць, не патрапіць да пасткі.
Горла касою мне рэжуць тупою…
Хтосьці суняў грукат сэрца рукою…
Нехта другою яго вырывае…
Сонца апошні прамень спасылае…
Дасць супакой мне рака Лімпапо…

Што ты са мною зрабіў, Эдгар По?!

***

Мы не верым у боль чужы,
не-свае не прымаем слёзы,
праўду лічым за сплаў ілжы –
ліхаманкава точым лёзы.

На пяшчоту адказ – недавер,
бо раўнаем усіх з сабою,
па сабе – з усіх нашых мер
неправераных самай крывою.

Прыйдзе дзень, нам усім чужы, –
рассмяецца на нашы слёзы…
Дзесьці там, на блакітнай мяжы,
ён чырвоныя точыць лёзы.

## *Да N****

Шчаслівых дзён не лічыш ты
ды кожнай цешышся пароюю,
як эталонам пекнаты,
красой падманлівай сваёю.

А міма мчыць, бурліць жыццё –
складае новае суладдзе.
Ты ж кожнай хвілі адкрыццё
на строях зводзіш і памадзе.

Ды змые пудру з твару дождж
і скуру высушыць вятрамі.
Усе жывуць, а ты – як мошч
паміж людзьмі жывымі. Аман.

## ***Трызненне***

### ***I***

Стаяў у месячным святле
і слёзы радасці гаючай
расой на сэрца ўпалі мне
ды абудзілі спадзяванні.
І тут жа моцна пакаралі
праз напамін аб адцвітанні,
што перасследуе вясне.
Ад гэтай помсты немінучай
здзічэла сэрца: па траве
крыві разбегліся каралі.

### ***II***

Спакону вечнае святло
люструе возера нябёсаў
і цягне, цягне ў багну зор
рахманых, спуджаных анёлаў.
Лягчэй ад пёрайка душа –
пакутай прывіднай канае
(як прагне злюбленых бяда:
так прагне шчасця маладая!).
Святло змарнуецца ўначы,
анёлаў космас здушыць глыбай,
а слёзы зродзяцца ў дажджы:
жалобай выльюцца вялікай.

## *Credo*

Не прыходзіць двойчы на зямлю,
двойчы не кахаць да забыцця.
Тым, што кажуць смела “Я люблю!”,
нават смерць не адбярэ жыцця.

Праўда і хлусня – для ўсіх адно,
свецяцца да самай галізны –
добры сын тады, як не відно
у бацькоў дачаснай сівізны.

Крыж таксама на жыццё адзін –
ростань часу, лёсу і душы
ад святых матулiных радзін
да вячыстай могілак цішы.

І апратка дадзена адна –
мудрасці разважлівы спакой.
Ты ад твару да самога дна
вылеплены бацькавай рукой

З запаветам: “З добрага пачні,
адгукайся безлічы разоў –
і не схлусіш, сыне, прад вачмі
тых, што пазіраюць з абразоў!”

## ***Маме***

Мама, вёсны твае – у блакіце пяшчотных пралесак,
Што ў праталінках свецяць на аснежанай белені рук,
У вачах, поўных сонечных цёплых усмешак,
Што спатольваюць сэрца па цемені скрух.

*Маміна ўсмешка – як песня,*
*як водар,*
*як сонца.*
*Цёпла і ўсцешна,*
*што побач са мной ты*
*бясконца!*

Мама, леты твае – у цяжкім збожжадары калосся,
Спорнай працы і песні, ад якой па мільёнах турбот
Добра, лёгка ў душы. І няхай сабе ўсё не збылося,
А на покуці ў хаце – твой важкі ўмалот.

Мама, восень твая – як узоры цянкіх павуцінак,
Мілых, крохкіх на чырвані тонкіх рабін;
А на тавары тваім леглі сотні так мілых маршчынак –
Прамінулых трывогаў надзейны спачын.

Мама, зімы твае ўсе ў аснежанай замеці далі,
Дзе драмае вясна свае вешчыя песні і сны.
Толькі свеціцца ўсмешкай чароўнаю вочы-каралі
І рассейваюць кветкі так чаканай вясны.

*Маміна ўсмешка – як песня,*
*як водар,*
*як сонца.*
*Цёпла і ўсцешна,*
*што побач са мной ты*
*бясконца!*

## *Думкі*

***I***

Калі ў каханні ўсё да ладу,
душа зняверана пытае,
ці не схавалася за шчасцем
пачвара ненажэрнай здрады;
і пакрысе каханне тае,
а сэрца стомлена пытае:
чаму ты рады?

***II***

Не пражывеш на зямлі між людзей некаханым.
Хто ж пакахае цябе – не ведаеш ты.
То не марудзь жа!
Здараецца, гэтай хвілінай
той у журбе памірае,
цябе што не здолеў знайсці!

***III***

Калі жалобна птушка заспявае,
змаўкае чалавек у задуменні –
Самоты працінае яго страх.
Самота ў душныя скляпенні
штодня адводзіць пакаленні
ў нас на вачах.

***IV***

Нараджаюцца зоркі і гінуць без следу
ў тузе, забыцці, адзіноце;
і толькі нямногім выпадае кахаць:
зоркі гэтыя ў вольным палёце
спатыкаюцца ў адзіноце
і разам ляцяць.

***V***

Калі наплывае ноч
стуль, дзё сёння ўставала сонца,
зямля халаднее ад страты;
шчымяць у бяздонні сусвету
таемныя зоры –
гэта вольныя душы,
што нясуцца ў сонечны вырай.

## *Чалавек*

Чалавек шукае дарогу,
дзе не ступала яшчэ
нічыя нага –
не ўзбівала першароднага пылу,
не таптала цнатлівай травы,
не муціла адвечных крыніцаў –
ён шукае сваю дарогу.

Чалавек шукае спакою,
каб не зведаць цяжкога ярма
чужаволі,
не спаганіць душы сваёй гвалтам –
каб адчуць асалоду жыцця.

І толькі ў хвіліне ад смерці,
калі сэрца адчайна-жывое,
чалавек разумее,
што дарога яго пралягала
па шляхах, на якіх сотні тысячаў ног
да яго пазбівалі той пыл,
патапталі цнатлівасць травы,
замуцілі празрыстасць крыніцаў.

І калі ён не зведаў
цяжкога ярма чужаволі –
не спаганіў душы сваёй гвалтам –
ён адчуў асалоду жыцця.
Шлях яго – да спакою.

### ***Філосафу О******

Новы век ідзе... Ззяе далячынь
фарбамі агнёў, зманнасцю прычын.
Кожны новы дзень лашчыць небакрай
шчасцем адкрыцця, што надыдзе рай.

З трапяткой душой – ахапляе жах! –
ты ідзеш далей па чужых касцях
да святых вышынь існасці й быцця,
кінуўшы наўзбоч радасці жыцця.

Пэўне, носіш ты мудрасці ярмо;
хоць і хараство, ды нішто яно:
век ідзе, яго нам не перагнаць –
кожны ў ім адзін будзе паміраць.

***

Ці ёсць на небе тое вока,
што мне прадвызначыць ходу:
пакуты, страх, выгнанне, голад,
каханне, здраду…

і парог, дзе сядуць раду
святыя радзіць: вечны холад
у апраметнай я знайду
ці пасялюся за аблокі?

Няхай сядаюць – то ж святыя,
а мне не страшны гэты суд:
я на зямлі адпакутую,
адвесялюся. І тады,
нібы гнілля старога пуд,
Зямля з палёгкаю абмые,
абмые ног маіх сляды…

***

Аднойчы буду паміраць...
Ляцецьмуць мне сняжынкі ў твар
    імкліва, стрымгалоўна –
    студзіць смяротны жар,
    ды будзе ўсё мне роўна.

Аднойчы буду паміраць...
Свой шэпт смяротнае відмо
    тады зглыне раптоўна,
    жыццё – шпурне сваё ярмо,
    ды будзе ўсё мне роўна.

Аднойчы буду паміраць...
Збярэцца ваш вірлівы тлум
    казаць-пяяць шматслоўна;
    на тварах ляжа сум,
    ды будзе ўсё мне роўна.

***

Зноўку адзін. У цямрэчы
моўчкі стаю. З гары
голас пяшчотны нечы
шэпча таемна: “Памры...

Што на зямлі? Прыпомні –
голад, галеча, страх.
Праз залатыя промні
твой пракладу я шлях.

*Там* супакой невыказны,
вечнае сонца-рай...”
Божа, прымі за блазна!
Цемра, не спакушай!

Што ў невычэрпнасці вечнай –
бездань святла, пакут?
Не, хай я жыў недарэчна –
шлях мой закончыцца *тут*.

## *Чаканне*

Я чакаю штодзённа кагосьці,
Як чакаюць жаўранкі вясны,
А мае невясёлыя госці
Прарываюцца ў змрочныя сны.

Вось, рыхтуюць аблаву на волю
Цені смерці, адчаю, нуды –
Б’юць у сэрца. А нэрвы ад болю
Закруціліся, бы правады.

***

Анёл самотны, уначы
крылом у дзверы ты пастукаў
і ціха мовіў: “Адчыні…
Я – выбаўленне ад пакутаў.

Няхай жыццё ідзе на злом,
няхай шалеюць сухавеі –
пяшчотным зраненым крылом
тваю надзею адагрэю.

Ідзі за мной у светлы рай –
няма там болю і адчаю…”
Анёл самотны, не змушчай:
не першы раз я паміраю.

# РАЎДОНІЦА

***

Зыходзіце ўсе ад мяне – на вякі,
раптоўна, з усмешкаю,
без развітання,
па цёплай расе, ні падаўшы рукі,
ні – словам паспешлівым –
дату спаткання.
Як снег у цяпле трапяткой далані
халоднымі кроплямі
ў смерць уцякае,
так лёс, паабцяўшы ў сядле рамяні,
агнём занямелае
не напаўняе.
Навокал шляхі пранялі далячынь,
за ёй – залацістыя зоркі
ды сонца,
а побач – грахі ды крывавая стынь
адчаю самотнага
ходзяць бясконца.
Не скажаце мне, дзе лунае душа –
вяршыні з нізінамі
пераплывае.
Я сёння на дне, і глухая ціша
былога прывідамі
дух пахланае.

***

Вы сёння прысніліся мне,
усе, што былі маімі.
Як у жыцці, і ў сне –
чароўныя серафімы.
Сваёй незямною красой,
вы ўсе, што былі маімі,
рассыпцеся божай расой
па райскай бясконцай даліне.
Не думаў, што час той міне,
а сёння вы сталі чужымі...
Вы ў рай не чакайце мяне,
усе, што былі маімі...

## *Адыход*

*Памяці Ул. Караткевіча*

Спакваля адыходзім усе
ад зямлі – да нябёсаў, увыш.
Ад каго – толькі след па расе,
ад мяне вераснёвы скавыш
на зямлю, дзе я сам узрос,
вам нялюбы, камусьці – жаданы,
у далоні вашыя строс
крамяніста-цяжкія каштаны.
Я вярнуся, я зноўку прыйду,
можа, кветкаю, ці асцёгам.
Нават кропляю з хмары ўпаду –
мне і гэтага шчасця многа.

І не буду між вамі госць.
Мо' за гэтае не асудзяць,
“Хто ты ёсць?”
не гучацьме як здзек,
калі проста скажу:
“Імярэк,
які жыў, існуе і будзе”.

## *Dies irae*[3]

Не я выбіраў адзіноту.
Як мог, так спяваў і жыў:
у паніжэнні й палёце
даверам людскім даражыў.

А не спяшаў у абдымкі –
сябе і чужых абакраў:
ад кожнага ж бо абразу,
як свечку святы, чакаў.

І дзіўна: заўжды цалавалі
мне рукі з-за дробязных спраў,
ды ботам ударылі ў грудзі,
калі з непадымнай упаў.

О свет! Ты мяне зняверыў,
нішто мне твая ралля!
Лячу, нібы ў снах дзіцячых,
плыве пада мной зямля...

[3] Дзень гневу (лац.).

## ***Раўдоніца***[4]

Я памёр: для ўсяго і для ўсіх.
Дзіўным рэхам мой голас аціх.
У бяседзе не жаліцца скрыпка.
Я прылёг на вячысты пракос,
ад мільёнаў завостраных кос
акрываўлены, цёплы і ліпкі.
*Рукі любай закрылі павекі,*
*рукі маці акрылі навекі,*
*з жоўтых дошак зрабілі мне хату*
*тата з братам.*
Людзі выйшлі са мной развітацца,
д’ябал вылез як след паквітацца,
вораг смерці пачаў баяцца
і пужацца.
*Чалавек добры выкапаў дол,*
*абвязалі крыж белым радном.*
*Мой апошні засыпалі ўздых.*
Я памёр.
Я памёр між сваіх.

[4] Адна з народных назваў Радаўніцы (ад балцкага *raudėti* -- плакаць).

## *Харону*

Мне баліць, а камусьці салодка.
Адзвінеў мой апошні звон.
Гэй, Харон, дзе падзелася лодка,
на якой павязеш у палон?

Бачыш мех? Завяжу ў яго слёзы,
з нэрваў – сэрцу завязак зраблю.
Ні Кацыт, ні чысцовы марозы
мне не страшны – я й смерць палюблю.

Мне тут рай. Запаволена Лета
з Ахеронам у вечнасць плывуць.
Так, Харон! Я прыбыў з таго свету,
дзе па талеру ў труны кладуць.

## *Дзяды*

*Памяці зніклых*

**I**

Людзей зыходзіць чарада – у цемру свету.
Трывожна азірае перад ёй
Вачыма паўвідушчымі планету,
Залітую пакутніцкай крывёй.

Ірвуцца, лёгкія, шчаслівыя ў нябёсы,
Зямлі аддаўшы ўласных целаў пух,
Усе, хто праўдай жыў. І зводзіць лёсы
Да аднаго Той, хто спыняе рух.

**II**

Вы чакайце!
Мы пройдзем яшчэ
Па палях, паплавах і раллі
Гэтым шляхам адзін толькі раз.
Вы пабачыце, рукі ў крыві
У каго будуць з нас.

## *Auschwitz*

Krótka była rozmowa
z tym,
          z tym,
                    z tym...
Życie już wysadzone
w popiół i czarny dym...

Zaćmiewa mózg mordercy
nienasycony szał...
W czoło, a czasem w serce
strzał,
          strzał,
                    strzał...

Dziś w Auschwitz panuje
harda Aryjka – śmierć...
Jej towarzyszą uprzejmie
*Schweiß,*
          *Schwert,*
                    *Schmerz*[5].

Depcze wystygły popiół
swastykowany wróg...

Matko Boska
Częstochowska,
Czy ponad wszystkim –
                    BÓG?

[5] Пот, меч, боль (ням.).

## *Requiem aeternam nautis*[6]

Прачула грае арганіст
пра сумны лёс ваш і за вас
узносіць люд святло малітвы
да Бога ў велічы ўтрапення:
«Lai tava sirds vairs nebaidās…»[7], –
гудзе прасветлена скляпенне.

Святы барочны пераліў
злучае Неба і зямлю
і дух людскі яднае з Богам.
Плывуць стагоддзі, і маленне,
нібыта зернетка раллю,
узможа вашае збавенне.

Зрушоных хваляў грозны вал
не змог вам душаў – як скала,
вы адстаялі ў грознай бітве;
а мара ў вечнасць адплыла,
і юнь загінула не ў час.
Lai tava sirds vairs nebaidās…

[6] Рэквіем па мараках (лац.).
[7] Хай тваё сэрца больш не журыцца…(латышск.).

# МЕСТА

### *Вільня*

Я прыйшоў да цябе ізноў,
бо дарогі вядуць да Брамы,
места Вільня, з усіх маіх сноў
невыснёных, цудоўны самы!

Лёгкіх крылаў барочны ўзмах
праразае сувой арганны
і канае былога птах
над бажніцай святое Ганны.

“Tu jest mocny nasz polski ruch…”[8]
“Mūsų sostinė Vilnius…”[9] Да змору
я шукаў твой загублены дух,
bet sakyti *-ius* aš nenoriu![10]

Не, у сэрцы маім адчай
не суцешыцца песняю новай.
Вільня, Вільня мая! Выбачай,
што гаворыш ты іншаю мовай!..

[8] Тут моцны наш польскі рух (пол.).
[9] Наша сталіца Вільнюс… (літ.).
[10] але я не хочу казаць “-юс”. (літ.).

## *Цень храма*

І зноў прысніўся гэты белы храм,
    дзе, роспачы пячаткай змардаваны,
З дакорам пазірае ў вочы сам
    Хрыстос, што за любоў укрыжаваны.
Нашто яму зямное хараство,
    схаванае навек пад купаламі!..
У змроку патаемнае святло
    санліва сыпле па-над алтарамі;
Журлівы позірк змучаных мадон;
    і дзесьці смерць, здаецца, прыхавана,
Якую з апраметнай клічуць звон
    з мелодыяй пякельнаю аргана...

## *Віленскія галубы*

*Ганне Бутырчык*

Ён на даху касцёла святое Тэрэзы
веснім днём тую песню спяваў:
"Прыляці да мяне, мая галубка!
Буркатанне тваё мой улагоджвае слых.
Што гэты звон салаўя ў ценю шумнага летняга гаю?
Ці ж ён абудзіць у сэрцы пачуццяў святых?!
Бачыш таемныя, дзікія белыя зоры?
Ведай – да іх нашы душы пасля адлятуць.
Толькі не будзем пра тое сягоння і згадваць,
у гэтую ціха-пяшчотную звонь...
Ты са мной побач! Ці чуеш, як грукае сэрца?
Ці ад кахання-трывогі – не ведаю я.
Не пытай так упарта вачыма
ты аб тым, што душу на кавалкі ірве...
Што душа? Хай згарыць, зледзянее,
але з сэрца – адгэтуль ніколі не вырваць святла!
Што ж не чую цябе і вестак тваіх я не маю?
Мо' нялюбы табе цягам часу я стаў?
Калі так – не патрэбна жыццё мне бяз сэнсу!
Рэжце, біце, утаптвайце ў бруд, –
бо бракуе мне моцы, каб жыць у чаканні,
без надзеі на радасны дзень.
О каханне маё, слодыч, мара і боль!"

А на вежы гатычнае Ганны
сядзела галубка і ціха спявала:
"Ты шчыруеш, красуеш, вясна!
Толькі што ад красы мне твае,
калі шчасця ты мне не ўручыла?
Свет кахае: зямля, раўчукі,
нават брук, паглядзі, як прыціснуты шчыльна!
Толькі до' гаварыць – палячу да суседняга даху:
можа там я сустрэну (як стукае сэрца!)
каханне сваё?..."

Узнялася яна і туды паляцела,
дзе чароўную песню галуб буркатаў...
Толькі грымнуў тут звон
ад царквы Святой Тройцы,
і той дзіўны галуб у сінечы растаў...

## *Лібава*

*Адаму Мальдзісу*

Шумны тлум узбярэжнай Лібавы…
Солань мора натоўпу людзей
дух бадзёрыць – лаўцам пераправы
да нязбытных і марных надзей.

За халоднай самотаю мора
берагі чужаземцаў ляжаць.
Там – збавенне з прадвечнага гора,
у тузе там усім паміраць.

О Лібава! Даўно ўжо, бяздомны,
мільгацеў і вірыўся той тлум
гнаных лёсам ліцьвінаў патомных,
царскай ласцы адданых на глум.

Гул натоўпу не сціх за гадамі –
рэхам тоіцца ён між муроў
І праз ноч вабіць порт маякамі
душы зніклых у мжы туманоў.

Карабель у бязмежнасць адносіць,
праз стагоддзі той груз ён вязе…
Толькі хваля задумна выносіць
па бурштынавай цёплай слязе.

## *Метро*

У метро прадаецца білет
На той свет...
“Асцярожна...
Наступная станцыя –
*Маладзёжная*”.
Месца спаскуджанай веры.
“Асцярожна – зачыняюцца дзверы...”
У тунэлі з раззяўленай пашчаю,
ля касцей, ля магілаў прашчураў
едуць людзі з верай
без меры.
А пад цокаты электрычкі
смачна есца і добра спіцца.

Ды не мае ніхто нават звычкі
пад Кальварыяй перахрысціцца...

Мкне натоўп, як вясновая крыга:
“Асцярожна... *Няміга*”...

## *Вуліца Прыгожая*

*Але Ходан*

На вуліцы Прыгожай ляжыць халодны снег,
і мроіцца чамусьці дзіцячы даўні смех.
Тут закаханых пары плылі па тратуары
з рамонкаў і валошак, пад бэзу цёплы пах...
І лашчылі планету дажджом агні Сусвету,
і загараўся ў сэрцах маёвы зоркапад.
Было, было... Ды болей не будзе ўжо ніколі
разгубленых усмешак загубленых людзей.
І вось сюды паволі ты з пажыццёвым болем,
са светлаю тугою за іх усіх ідзеш.
Ах, Алачка, ах, Ала! Жыццё ўсё паламала,
а келіх горкі лёсу не выпіты да дна...
Ах, Алачка, ах, Ала! Калісь і ты гуляла
па вуліцы Прыгожай з каханым давідна.
Ды ўжо, каго кахала і ўсё жыццё чакала, –
яго даўно няма.
Няма і быць не можа,
і вуліцай Прыгожай ідзеш цяпер адна.
І вось нясеш ты, Ала, што за жыццё прыдбала –
усё нясеш у сэрцы на селішча сваё:
і гора, і нястачы, і радасці, і ўдачы –
усё, што мела тут.
Свой лёс нясеш ты, Ала, на самы важкі суд.
*Няма нібыта вуліцы:*
*у трох хацінах туліцца.*
*Ды сведчаць шыльды-метрыкі,*
*што вуліца Прыгожая*
*яшчэ жыве... Жыве!..*
*Вачам ад слёзаў муліцца,*
*а на душы ўжо робіцца*
*так хораша табе!*
Паклон табе, любімая! Ты мне як маці родная,
з якой душою злучана я ў кожны дзень і час.
Прыгожая-Красівая, з табой мы – не бязродныя,
і ты за крыўды розныя прабач, як маці, нас.
Бывай, мая Прыгожая, мяжа дабра і зла!
О як па-чалавечы жыццё ты пражыла!

***

*Арсеню Лісу*

Зніклы Менск, па табе былым
я праходжу скрозь шумныя тлумы,
скрозь машыны, спаруды “ампіру”
сталіноўскага, -ізмы і ц/гумы.

Шаблі, кулі, нагайкі сляпнём
упіваюцца ў грудзі і плечы,
штось крычыць праз імглістую небыць
акрываўлены рой чалавечы.

Ты гарыш і знікаеш, з пяску
паўстаеш, каб заняцца пажарам,
ды падковаю хам прыдушыў:
спапялёны чырвоным штандарам,

учапіўся ў пахілены крыж,
як тапелец за тонкую крыгу,
і абрынуўся з ім стрымгалоў
у падзем’е тваё – у
*Н*овы твой гаспадар,
*Я*на, што не спіць ніколі,
*М*ае бясцэнны дар –
*І*мкне з небыцця на волю:
*Г*неўная, краты рве
*У* глуха-бетонным дне!

## *Віцебск*

Ліпнёвы дождж між карнавалю
рукой нябёснаю абмыў
гарачы водар юных целаў.
Стракаты росплеск тратуараў
стамлёнай змейкаю паплыў
у зацень пасвяжэлых сквераў.

Рука спалучана з рукою,
трымценне ў здзіўленых вачах,
як прадчуванне насалоды...
Сярод акацый над ракою
кране каханых па плячах
крыло начное прахалоды.

Каханне ў песні застанецца
нам на дваіх.
Святло разбуджаных вакзалаў,
расстанне – міг.

Тугою ў ноч няхай пральецца
здзічэлы ў мудрасці
Шагалаў
штрых.

## *Места*

М е с т а.  Тысячы целаў
абліваюцца потам,
закаваныя ў латы
згрызот і турботаў.

М е с т а.  Тысячы думак,
мільёны сумненняў
у разумных галовах
стракатых адценняў.

М е с т а.  Тысячы душаў
рвуцца з клетак на волю;
ды не вырвацца ім
з гэтых турмаў ніколі...

***

Салігорскі вакзал… Неба зарань
сыпле золата на прысады.
Я вярнуўся ў юнацкую гавань
адпачнуць ад падману, звады.

Зноў, знясілены, ашалела
забіраю на поўныя грудзі –
здрада ў памяці спарахнела.
Новы дзень больш ласкавы будзе.

# ДЫЯМЕНТ

### *Счараваная Беларусь*

*Вітаўту Кіпелю*

Ты ходзіш па свеце – самотны прывід,
Ратунку шукаеш ад собскага ценю,
Не можаш пазбыцца ліслівых абрыд,
Нянавісць сваю заціскаючы ў жменю.

Усходні, заходні, паўночны сусед
У хаце тваёй – пажаданыя госці.
Ты ім аддала свой каштоўны сает,
Сыноў і дачок і бацькоўскія косці.

Не ты малаком узмагала князёў,
Што, грудзі твае засланяючы ў бітвах,
Каналі пад небам чужынскіх краёў
Ды прышласць тваю бласлаўлялі ў малітвах.

Цябе не было. І не твой успамін
Вярэдзіць нам душы, што мруць у згрызотах,
Бо Вітаўт – не твой, і не твой Гедзімін,
А тых, што сядзелі ў паганскіх балотах.

Цяпер ты – малодшы з усходніх братоў
(Хоць маці па праву назвалася б, можа),
За іх пралівала ахвярную кроў
Ды клалася смела ў пракрустава ложа.

Усё, што насіла ты ў сэрцы сваім,
Забралі “браты”, каб давеку папрокам
Цябе дакараць, што няўдзячная ім,
Няшчасцяў тваіх чарнакрылым прарокам.

Устань, абудзіся, з пляча страсяні
Ліхія трызненні, што цягнуць у прошласць!
Мая счараваная Маці, глыні
Паветра свабоды і – зрынь гэту пошасць!

## ***Ворскла***

*Зоры Кіпель*

Ясная заранaчка ўстала над зямлёй,
Развітаўся Яначка з любаю сваёй.

“Любая, каханая, сэрцу боль, павер –
на вайну татарскую едзе твой жаўнер!
Абдымі, каханая, і скажы “бывай” –
можа, назаўсёды я пакідаю край:
на раку на Ворсклу я еду на вайну –
або славу войскую, або смерць знайду…
Ой бывай, каханая, выйдзі ў белы сад –
мо’ ўжо не вярнуся да цябе назад!”

Цалаваў у вочанькі, цалаваў у скронь…
Проці цёмнай ночанькі спатыкнуўся конь:
“Ой не едзь, падкованька, пад татарскі меч,
бо зляціць галованька з маладзецкіх плеч!”. –
“Ой не плач, Ганулечка, не пускай слязу:
я твайго каханага з бітвы прывязу…”

Прамінула лецейка, адышла зіма –
ні ліста, ні вестачкі з той вайны няма.
На царкве апоўначы разгайдаўся звон,
капытом ля веснічак стукнуў-грымнуў конь:
“Расчыняй жа, дзеванька, вокны ў белы сад –
я прывёз каханага да цябе назад:
на плячы саколічак у яго сядзіць,
буйная галованька на сядле ляжыць…”

## *Милостъ Трышчанова*

*Яко не вечна цветовъ красота...*
*Сімяон Полацкі*

Кгды прыдалося по мору плывавшу
Пану Трышчану, посэльство справлявшу,
Въ месте Бияне узрэти Ижоту,
Велкую сэръцу онъ задалъ работу:
Ову понеже не смелъ собе взяти,
Кгды жъ королевой та мела ся стати
Марку, што паномъ ся звалъ Коръновалу.
Плынуть науспакъ, а бывшу упалу,
Зною велику: усхочуть испити
Пива, имъ жажу дабы усмирыти.
Да прынесе имъ служанка у фляшы
Пите милосно, того не познавшы
Въ темной коморы. Инявшы напою,
Мовитъ Ижота красная зъ собою:
"Што ми ся чынитъ, жэ сэрцэ задръжало?
Мыслю, ижъ мало ми жыти остало!
Где есми заразъ, жэ чуюся пъяна,
По што тутъ бачу пры собе Трышчана?"
Видечы тое, Трышчан пан сумелъся:
"Панно, где естъ корабель нашъ поделъся?
Чы мы на небе, чы въ пекло вътручоны?
Чуюся въ сэрцы назбытъ засмучоны...
Дивно ми тое: якъ жывъ я, николи
Не имывалъ есмъ подобное боли.
Цветъ свой даруй ми, жалостному пану,
Во дни и въ ночы о то молить стану.
Яко не вечна цветовъ красота,
Тако, Ижото, твоя лепота".

***

Божэ моцный, зажыви на сэръцы рану,
Што Ижота задала Трышчану.

## *Ліст пана Трышчана да вялебнай Брагіні*

*Вользе М.*

Вітанне вялебнай паненцы Брагіні!
Ваш вобраз на сэрцы яснее, не гіне.
Нішто ў чужыне нас не грэе, не цешыць,
Хоць справы вядуцца мае, як належыць.
Відаць, ад прыгодаў ператаміўся.
Але, дзякуй Богу, на Вас не забыўся.
А Вы не тужыце, усё прамінецца
І сонца кахання ізноў усміхнецца –
Не раз і не два, але назаўсёды,
Бо добрае – сутнасць матулі-прыроды.
І замкі й гулянкі – усё ёсць, вядома,
Ды толькі найлепей, калі рыцар дома
Здабудзе прыязнасць, адчуе чаканне
І, можа, сустрэне – нарэшце! – каханне.
Ды мне даспадобы, відаць, адзінота,
Як сонцу – нябёсы, як чорту – балота.
Не-не, у сабе я не ёсць закаханы:
Між мною і светам – балесныя раны...
Яму я чужы, хоць мо' часам здаецца,
Што мне ўсё і лёгка, і латва вядзецца.
Лёс рыцара – гнацца-ляцець за няўлоўным,
А потым – у яр, назаўжды, стрымгалоўна.
Не скарджуся, не. Ды і крыўды не маю.
Але і спагады сабе не шукаю.
А словам, вялебная пані Брагіня,
Хацеў бы застацца ў Вашым спаміне
Я светлаю згадкай, самотнаю ўсмешкай:
Такой незабыўнай, бязвіннаю, першай...

На гэтым дазвольце цяпер развітацца,
Бо маю па свеце яшчэ дабадзяцца.

*Ваш верны прыхільнік, адданы Вам пан,*
*Самотны паскуднік, хоць рыцар,*
*Трышчан.*

## ***Руплівіца***

*Любові Ляўшун*

Пісанае манаскаю рукою
Ці свецкае асобы рупным дбаннем
Яна заўсёды носіць за сабою,
Рухомая настойлівым жаданнем
Свет зачыніць, каб разгарнуць нанова
І паказаць у свежым асвятленні,
Якая незнішчальная аснова
Мінулыя трымала пакаленні:
“Ігде зачало взяло наше
Любве хотенье, кто і как страждаше:
Понеже не імавый веры
Да не срете во жізні кавалеры”.

***

*Над рэкамі Вавілона*
*там сядзелі і плакалі мы,*
*калі згадвалі пра Сіён...*
*Псальма 136:1*

Там стаялі ды плакалі мы
над водамі Буга –
мы прыгадвалі волю, ды сны
абсякала нам панская пуга.

Там стаялі й маўчалі мы
на громы з усходу,
патаналі ва ўласнай крыві
за чужую ды “нашу” свабоду.

Так смяяліся весела мы,
што жывыя ў няволі,
ды раскідвалі спрэс валуны
на шляху нашай долі!

Там стаялі і бачылі мы
праз адчаі з адчаяў:
неслі воды ў чужыя краі
нашы сілы, а стуль – янычараў.

У трывожным бяссіллі званы
так пякельна раўлі-галасілі...
Дзе ж твае, мой народзе, сыны? –
Там, у Польшчы, Літве і Расіі!

### *Вера*

За кожны дзень, за кожны грэх
адпакутую.
Цяпло зямных маіх уцех,
маю самоту незямную,
і гаршч зярнят у далані
я занясу ў Зямлю Святую,
за небасхіл, за небакрай –
у свет бясконцы:
хай гаршч зярнят узыйдзе там,
дзе збожжадар жытнёвы мой
збіраць не вам,
а маладому сонцу.

За кожны крык нямы ўваччу,
за горыч здрады
жыццё па кроплі распушчу
на мірру і на горкі ладан,
каб выеў душы, людзі, вам,
хто д'яблу рады!
Хай дзень за днём, за годам год,
хай праз змаганне –
ты йсцімеш, юны мой народ,
да лепшай долі...
Але мы стрэнемся з табой
на Пляцы Волі.

І ні хлуснёю, ні агнём
не адмяніць спаткання,
што мы прызначылі сабе:
гарачы травень. Ранне...

## *Засеў*

Памірае слабы. Моцны – жыве:
прывячае – стрываць немагчыма –
між калосся ў жніве
васільковымі сінь-вачыма.

Поле зжатых надзеяў – кветак жыцця,
і загубленых поле зярнятаў…
Ссе, нібыта змяя,
боль пякучы ад гэткіх стратаў.

Лютавала тут смерць, сівер шалеў:
зноў зялёныя нашыя гоні!
Ты не знішчыш засеў –
час адмераны, кат чырвоны!

## ***Пілігрым***
*(Памяці Г.В. Кісялёва)*

*Калі я рушу далінай*
*смяротнага ценю,*
*душа мая не збаіцца.*
Паводле Псальмы 22

Пакінуўшы так мілую Айчыну,
З няхітрым скарбам рушыў пілігрым
Праз цёмную імглістую краіну
У места святасці людской – Ерусалім.

Па цяжкіх стромах – не гасцінцах бітых,
З сувоем думак – не з дукатамі ў руках
Ішоў ён, пілігрым, праз край забытых
Людзей і скарбаў найдзівосных. У вяках

Народ зямлі той меў бяды даволі:
Сусед ці вораг – ён усё аддаць гатоў,
Не прагнуў ні свабоды ўжо, ні долі
І за чужое шчасце ліў, як ваду, кроў.

Стаў пілігрым пад дрэвам радаводным
Зямлі пакутнай – і чытаў па ім душой,
Што змагароў і гордых, і свабодных
Той край хавае ў прошласці сваёй:

Апосталаў святых і мужных вояў,
Адважных рыцараў у цяжкай барацьбе,
Няскораных, ды знішчаных герояў,
Палеглых у крывавай малацьбе.

І зразумеў, што ў новую айчыну
Прывёў яго Гасподзь, што святасці агмень
І тут гарыць, тут знойдзе Палестыну,
А сонца праўды знішчыць фальшу цень.

І ён узяў святое праўды семя
У цёплую далонь – па спрагненай раллі
Пачаў засеў, і зернятак бярэмя
У звонкі колас выбівалася з зямлі.

За кожнай даллю – далеч у сінечы,
Ды ён упарта крочыў. З новаю вярстой
Насення ў кайстры – менш, і гнуцца плечы
І дні жыцця шыхтуюцца сцяной.

Шляхамі год ішоў ён, сейбіт вечны,
Да ростані душы на пераломе дзвюх
Эпох, калі на кожны крок сустрэчны
Зямля шпарчэй свой паскарае рух.

***

Далінай смерці ідучы ў вякі,
Махнуў рукою з берага ракі,
Абжытага апосталам Скарынам,
І – пакланіўся дарагім Айчынам.

## *Жанчынам Плошчы*

Хцівы крык груганння, што ўпілося крывёю,
мужна зносіць штодня і застацца сабою;
яркай свечкай згараць між грымотаў-маланак,
дабрынёй сустракаць кожны Божы світанак,
нават хмары калі вокал роднага дома,
калі сэрца ў крыві – гэта цяжка, вядома...

І з агідай глядзець на шабаш янычараў,
ды сваю песню пець між маны і пачвараў;
і без крыўды ад іх пераносіць абразу,
светлых мараў сваіх не счарніўшы ні разу;
і на зло чужакам адстаяць свае гоні,
і святло палюбіць векавечнай Пагоні,
калі вораг не спіць – рэжа нас пакрыёма –
гэта цяжка, вядома...

Гэта цяжка – прайсці праз адвечныя здзекі,
гэта цяжка – знайсці між “сяброў” чалавека,
гэта цяжка – ізноў паўставаць проці хвалі,
калі сотню разоў Беларусь пахавалі...

Веру: прыйдзе той час – сонца новага дня,
хутка скончыцца крык вокал нас груганння:
пабудуем Свой Дом і з бялюткім абрусам
прывітаем чалом Новы Дзень Беларусаў!

## *Вясна*

Палеткі родныя смарагдам траў буяюць,
Гізуе пчолаў рой, а птушак ценкі спеў
Званчэе дзень па дні. Вясёлкаю заззяюць
Нябёсы зноў пасля няўрымслівых залеў.

Трывогі адышлі,
а сэрцу добра й міла,
І хочацца ўтапіць
душу сваю ў вясне:
Руплівы гаспадар,
адвечных рухаў сіла,
Яна – наўкол цябе,
яна – ва ўсім табе.

Павер, што хопіць сіл у бурах не скарацца
І не чаўрэць – мацнець з грымотаў навальніц:
У іншых праз вякі нанова будзем жыць –
У квецені зямлі пялёсткам адгукацца.

# *ШАТЛАНДСКАЯ СЮІТА*

### ***Патрыку***

Прыязны сын Шатландскае зямлі,
выпадкам лёс прывёў цябе ў наш кут зялёны,
дзе так, як і ў тваім няскораным краі,
блакітам свецяцца валошкі ў плойме лёну.

Ты іх завеш на лад чужынскі – свой
назоў для іх згубіў, ці то забыў, – corn-flower.
Але ж усё адно ён дыхае святой
жытнёвай сілай, льецца промнем, песняй слаўнай.

Крыло вайны не раз мяло твой край,
і наш праз век агнём ушчэнт паліла.
Ды зноў, калі душу нам поўніў боль-адчай,
святое неба нас ад скону бараніла.

Чужынцы бралі дух тваёй зямлі,
яго скаваць хацелі пробай іншай мовы,
але не заглушыць было ніяк раллі
крывавым вылюдкам, ангельскім мураўёвым.

Андрэй-заступнік ваш мацуе строй –
дабром яго згадаюць у шатландскай хаце.
І наш Ліцьвінскі Край пад ласкаю святой
Марыі Панны – чалавецтва шчодрай Маці.

Між намі – землі, мораў хараство;
А мы – навек браты, што скінулі аковы,
і лёс у нас адзін: паслухай – пра яго
пяе жалейка-пайп у жыце васільковым...

## *Сын Калядоніі*

Тут, у гарах Грампіяна –
радзіма маёй душы...
Узносяцца стромкія скалы
і сініх азёраў піялы
да вечнасці, чыстай цішы.
Свет – на далоні...
З вышыняў – кілімам зямля.
Тут, у гарах Грампіяна,
п’яны, ад верасу п’яны
я.

Вецер напеў мне найграе
пра вольны мой любы край...
Мой пайп у душы распытае
пра ўсё, што стаіла тая –
пра ўсё распяецца пайп[11].
Я – не самотны...
Вясёлая песня мая.
Вецер напеў мне найграе.
П’яны ад пошуму мая
я.

Годнасці пікту не страціць,
хай беды ідуць, як дні...
З родных узгоркаў павевы,
з родных нябёсаў залевы
на поўніцу, бард, глыні!
Вораг – не пройдзе...
Святая друідаў зямля,
годнасці пікту не страціць!
Сын Калядоніі-маці
я!

[11] Дуда.

## *Расстанне з юнацтвам*

Абвязаны грыноцкім тартанам[12],
толькі зоркі складуць узор,
я чакацьму цябе за парканам
з найпякнейшаю дзікаю ружай…
Буду любым табе, буду мужам,
толькі зоркі складуць узор.
Пад арэшнік бяжыць,
штось злуецца, бурчыць
ручай…
Сэрца цісне туга.
Ты сказала: “Ага,
тут чакай!”

Сёння бачыў зрання з пералеску –
слала ў лузе ты палатно –
тваю любую сонейка-ўсмешку.
І здалося на міг – тут я грэшны! –
на пасцелю нам гэтак спешна
слала ў лузе ты палатно…
Пад арэшнік бяжыць,
сумным жалем журчыць
ручай…
Мой грыноцкі тартан,
эх! – і пан я, й не пан!
Ах, адчай…

На шырокім грыноцкім тартане
побач –ты. І далёкі нам свет.
Падганяе світанак расстанне
з найпякнейшай шатландскаю ружай.
Стаў мужчынам я, воем і мужам,
побач – ты. І далёкі нам свет…
Пад арэшнік бяжыць,
звонка льецца-звініць
ручай…
Мой грыноцкі тартан –
мой будан, тут я пан,
тут мне рай!..

---

[12] Выробленая ў шатландскім г. Грынок паласа тканіны, якая служыла горцам адначасова традыцыйным кілтам, плашчом, коўдрай і сумкай.

## *Балада самоты*

Як сэрца баліць! Ноч глухая
за думкаю думку снуе...
З далёкага шумнага гаю
запеў салаўіны шалее...
Кахай жа мяне –
бэз квітнее!

Чужынец за гарой –
я на бой!

Душа як баліць! Дзень спякотны –
жывому цяпло сонца шле:
і дрэвы, і красак самоту
палашчыць яно, абагрэе...
Кахай жа мяне –
бэз буцьвее!

Чужынец за ракой –
я на бой!

Як грудзі баляць! Месяц сумны
сярпом паміж зор плыве...
А ўсё спрэс ты, любы, задумны,
пагляд твой пяшчоту хавае...
Кахай жа мяне –
бэз сцвітае!

Чужынец за сцяной –
я на бой!

Як вусны баляць! Вуснам – горыч:
не зведаць ім ласкі твае...
З якой маладзіцай гаворыш?
Хто ў сэрца малойцу запаў?..
Забудзь пра мяне –
бэз апаў!..

З сырой гавару я зямлёй –
я не твой!..

## *Змагарам мінулых часоў*

Вы – дзеці вольнага народу:
сталь – у руках, душа – агонь.
Праз век ішлі вы за свабоду,
за вамі – край, пад вамі – конь.
  У сэрцы – вера ды надзея,
  якой не здрадзяць дзед і ўнук.
  Хай вораг з’едлівы шалее –
  яго шаленства спыніць лук!
Хай сцяг андрэеўскі яднае,
шыхтуе ўсіх, хто бачыў сны
пра дух свабоды ў гэтым краі,
пра надыход у ім вясны.
  Паход святы за вашу долю
  быламу хай паложыць крэс.
  Хто верыць – той здабудзе волю,
  хто вольны – той ужо ўваскрэс!

## *Кароль Марк*

Шалёны дзень, вар’яцкія часіны!
Кругом – падман... Каму падаць руку?
Народ здрабнеў, загас без дай-прычыны
І моліцца, як божышчу, граху.
Раскошаю падасца пастаянства.
У душах – змрок. Нагамі дагары
Ляціць усё... Ніштo яшчэ мяшчанства,
Але ўзраслі плявёлы й пры двары.
Разбэшчанасць натуры для паспольства
Прынесла цяжар дзікага свавольства.
Жыву як дзень, нібы канец сусвету
Звяздар ліхі прызначыў. Спакваля
Губляю моц: за звонкую манету
Шануе чэрнь і славіць караля!
А тут хоць ляж і хоць упрыся рогам –
Ніяк жыцця не выправіць хады:
Сплывае век, адпушчаны мне Богам,
І цягне смерць руку да барады.
А што па мне? Каму мая дзяржава
Пяройдзе? Заўтра – кацянё ў мяху...
Закон для тых, каму старое права
Дзядоў – святло паходні на шляху,
А гэтым – гразь... Эх, горкая хвіліна!
Адзін, як перст. Чаму ж Ты, Божа, мне
Дачкі не даў (калі шкадуеш сына),
Каб я спачыў, шчаслівы, у труне?!
Скажы, прашу, якія шчэ пакуты
Рыхтуеш мне, які яшчэ разлад
Наперадзе? Народ і так прыкуты
Да сатаной расстаўленых прынад.
А гэтыя... двара-ане!.. Божа любы!
Падступныя, ліслівыя, звычай
Бацькоў сваіх парушылі, да згубы
Вядуць маю дзяржаву, гэты край.
Ілжывыя, да ворага на службу
Гатовы йсці вышэйшыя з чыноў...
Адданых, не гаворачы пра дружбу,
Не бачу між зямлі маёй сыноў.
Шляхетны зброд, адчайная галота
На царства адшукае ідыёта!

## *Бард і блазан (1707 г.)*

Жалобнай басэтлі ўзвівы –
да неба мальба: “Пачуй! ”
Калісьці ж і я быў шчаслівы...
Танцуй, брат, танцуй!
Быў час, калі край наш цудоўны
жыў вольна, меў права сваё,
а дом кожны дзецьмі быў поўны –
было і такое, было...
Чужынец прыпёрся навалай –
па ім толькі попел і звод
ды пошасці рознай нямала:
пануе ангельскі тут зброд.
Без грошай – прэч выганяць з хаты:
“Не плаціш – у полі начуй!”
Тут праўда на трасцу багатым!..
Танцуй, брат, танцуй!
Усё ў нас цяпер адмыслова,
і кожны задрыпаны смерд
з калена Вільгельма святога
цяпер называецца “сэр”.
А кожная дзеўка з-пад плоту –
графіня. Пакінула гразь
за тую, напэўна, работу,
што ўночы зрабіў з ёю князь.
Знайшоўся і ў нашым народзе
такі не адзін, што халуй.
Ды годзе пра тое тут, годзе...
Танцуй, брат, танцуй!
Ці чуў ты? – Збіраецца сіла
ў гарах Калядоніі зноў:
чакае чужынца магіла,
пральецца ангельская кроў!

За песень журбы пералівы
прабач мне, мой браце, даруй...
Я ведаю – ты ўжо шчаслівы.
Танцуй, брат, танцуй...

## *Доля*

Пагляд твой адважны і смелы,
шырокія грудзі ў аршын,
а волас – як лён жоўта-белы,
Шатландыі сын.

Як толькі вясна зашугала,
жыццё абудзіла ад сну,–
вайсковая сурма зайграла,
пагнала цябе на вайну.
Здымаецца з яблыняў квецень,
вясна ўжо нагою ў леце.
А Клайда няма…

Высокае збожжа ўзнялося,
ды колас праз колас – наўда…
А ўсё маладое звялося,
дзяўчатам без хлопцаў – бяда!
Убралася лета ў турботы –
на полі зазнае работы.
А Клайда няма…

На бітву за край наш забраны
пайшоў ён, і згінуў навек.
Душу выядаюць туманы
і дум надакучлівых здзек…
Кастрычнік з засохлым лісточкам
пляцецца за цёмнаю ночкай.
А Клайда няма…

Зіма бы ўдава галасіла –
дамоў замятала твой шлях.
Ды слабне зімы лютай сіла
ў бітве з вясною ў палях.
Вясна ў поўным праве буяе –
буслaverageмі крыло распраўляе.
А Клайда няма…

Пад пышнай самотнай вярбою
хлапчына спачыў пасля бою…
Навекі спачыў…

Паглядам адважны і смелы,
шырокі ў грудзях – у аршын,
ён зжаты, як лён жоўта-белы,
Шатландыі сын…

## *Балада ўсіх народаў*

Па лузе мядовым раса
каціласся-рассцілалася,
туман – на зялёныя долы...
Куды ж ты, дзяўчына, сабралася?
Пагляд невясёлы...

З высокай вяршыні гары
сцяжына бяжыць-разбягаецца
ў свет зледзянелы і голы...
Што ж любы мой не вяртаецца
да роднай стадолы?...

За сіняю мора смугой,
дзе сонца на дзень выкатаецца,
ляжыць ён у цяжкай маркоце –
са смерцяй юнак змагаецца
адзін, у самоце.

*Я чорнаю птушкай-драздом*
*уміг абярнуся,*
*жывое вады з горных рэк*
*дасхочу нап'юся –*
*паймчуся да смерці паганай,*
*ёй выклік я кіну!*
*Счакай жа, мой любы, хвіліну,*
*счакай, мой каханы, –*
*жывою вадою пральюся*
*на раны, на раны...*

Па лузе мядовым раса
каціласся-рассцілалася,
туман – на зялёныя долы...
Слязою ўдава залівалася
ў горы, у горы...

## *Падарожны рыцар*

*В.А. Чамярыцкаму*

Заліты сонцам, праз дубровы
стамлёна едзе рыцар-вой.
У зброях-латах ён сталёвых
і з непакрытай галавой.
Пагляд адважны і суворы.
Меч – пры луцэ, і тарч пры ёй.
Праз рэкі едзе, стэпы, горы –
адтуль, дзе быў крывавы бой.
Варожай сіле не скарыўся,
быў моцны духам і рукой:
не на жыццё – на смерць ён біўся
за годны славы гонар свой.

Ды хто з жывых прадбачыць можа,
што лёс варожыць і каму?
З кім заўтра ён падзеліць ложа?
З чаго смерць прыме і чаму?
Каму адкрые сэрца ў ласцы,
у кім зняверыцца юнак?
І як складзецца лёс у казцы
яго з абранніцай?

Аднак
дубы шапочуць пакрыёма,
а ён наперад цвёрда мчыць,
каб свет той казкі невядомай,
як дзверы, насцеж расчыніць.

## *Манашка*

Збіла падэшвы, скрывавіла пяткі,
прэч уцякаючы ад маладосці…
Мяккія рукі, твар юны і гладкі…
Літасці просіш у Божае Маткі,
толькі спакой не вяртаецца штосьці.

Чорныя з белым ахуталі шаты
цела і думкі, ды ясныя вочы
горычна (весела – толькі на святы)
бачаць: любуюцца імі абаты –
позірк гарэзлівы, а не прарочы.

Леты мінулі, як стала Хрыстовай
любай, адкінула шлюбу спакусу.
Ноччу вярэдзішся ласкаю новай:
целам ты ёсць маладой і здаровай,
сэрца, душу аддала хоць Езусу.

Кляштар суседні… Садоўнік там сумны.
Ружы ён песціць праз доўгія леты.
Сад упрыгожылі дзіўныя руны –
кветкамі вышыў садоўнік іх юны…

Той, што табе прысвячаў трыялеты.

## *Смерць старога пірата*

Ён быў калісь пагрозай Эспаньёлы,
Стары, змарнелы, высахлы жабрак.
А як ён жыў! Адчайны і вясёлы,
Фрэгаты браў, паліў карвэты ў моры,
І з літасцю не знаўся аніяк.
Меў золатам напоўненыя трумы,
І срэбра, дыяментаў кучы меў,
Вёз груз заморскіх спецыяў, парфумы,
У куфрах – скарб для ўласнае задумы –
Над ім не раз маліўся і марнеў.
Быў не адзін бязлітасна скароны,
Ля ног ягоных гінулі цары,
Чапляў на шпагу важкія кароны,
Сякерай трушчыў злупленыя троны –
Сябрам падносіў шчодрыя дары.
Бізанты, фунты, талеры, песэты
Шпурляў за куфаль чыстае вады.
Ён ласкай каралевы быў сагрэты,
Ды век шалёны мудрай Лізаветы,
Як дзень, мінуўся, згінуў назаўжды.

Час, час гадам збірацца на парад,
Бо старасць, ненажэрная хімера,
Трымае, нібы золата пірат…
Рыхтуе месу за спачын абат
У раўнадушных сценах Вэстмінстэра.

## *Сюжэт*

– Чорны дрозд у шыпшыне
пра што так жалобна пяе,
аж на сэрцы кроў стыне?
– Не пытай, не пытайся ў мяне.

Пад шыпшынай магіла
пры месячным жоўтым святле
сваю пашчу адкрыла.
“Хто ляжыць у табе?” – “Я забыла...”

На магіле дзяўчына
сумуе і плача праз ноч.
Што за гора-прычына,
слёзы горкія з воч?

Хіба гэты бяскрыўдны сюжэт
зложыць вусны вашыя банцікам.
То зважайце – падзячыў паэт
светлаценям шатландскіх рамантыкаў!

### *Эль*

На свеце дужа піва ёсць,
ды ўсё ж для нас яно лацвей,
калі ты п’еш – ці свой, ці госць –
шатландскі эль, шатландскі эль!

Рос чорны хмель і верас рос,
ды ўсё ж у піве ён мілей.
Гэй, браце! Пі – не вешай нос –
шатландскі эль, шатландскі эль!

Няхай праз ноч залева лье,
няхай жыццё штодня чарней:
прыгожым зробіць свет табе
шатландскі эль, шатландскі эль!

Яго жаўнер п’е, п’е барон,
царкоўнік, нават там, вышэй...
Табе ніштo любы закон,
шатландскі эль, шатландскі эль!

Рагаты д’ябал ніпачым
нам сёння з тузінам чарцей!
Прэч думы ўсе – пі, капуцын,
шатландскі эль, шатландскі эль!

Грахоў ты дужа адпусціў,
ды праўды ўсё ж не ўразумеў:
дарэмна жыў, калі не піў
шатландскі эль, шатландскі эль!

Мінае ўсё, што ў свеце ёсць,
а ты жыць хочаш весялей? –
То пі, часовы свету госць,
шатландскі эль, шатландскі эль!

Салодка п'ецца наш напой,
ды горкі мае ён пахмел...
Мо’ досыць?.. Хто тут?.. Ой-ёй-ёй,
шатландскі эль... шатландскі эль...

# *(НЕ)ЧУЖАЯ ПЕСНЯ*

### *Смерць або Воля*

*(пераклад з чачэнскай мовы)*

Мы ў свет прыйшлі, калі шчанілася ваўчыца,
імёны атрымалі мы пад рык звярыны,
нас маці ў гнёздах гадавалі, як арліцы,
бацькі ўтаймоўваць коні ў хмарах нас вучылі.

Раджалі маці нас Айчыне і народу,
на іхні кліч адважна мы ў баі ўставалі,
з арламі гор упадабалі мы свабоду
і люты цяжар перашкод перамагалі.

Хутчэй з гранітных скал свінцу рака пральецца,
як зграі ворагаў прымусяць нас скарыцца!
Хутчэй зямля ў гарачым полымі сатрэцца,
як нам перад магілай гонару пазбыцца!

Ніколі не скарыць нас лютаму тырану,
без волі – смерць, без волі лепш са свету згінуць,
нам песні сёстраў нашых вылекуюць раны,
каханых вочы нас на подзвігі падымуць.

Знясіліць голад – корнем зможам наталіцца,
спатолім смагу з росных траваў – і адужым.
Мы ў свет прыйшлі, калі шчанілася ваўчыца,
Народу, Богу і Айчыне толькі служым!

# ***ЗМЕСТ***

***ІЗМАРАГД***



***DZĪNTARS***



***VINCLUM***

***ПАЭТ І ДУША***



***ЗДУМЕННЕ***



***РАЎДОНІЦА***



***МЕСТА***